ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б



ПАЛЕПШЫЦЬ СПРАВУ РАБОЧАГА СНАБЖЭНЬНЯ.

СЬНЕЖАНЬ

№ 15

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 2

# ПАЛЕПШЫЦЬ СПРАВУ РАБОЧАГА СНАБЖЭНЬНЯ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Апублікаваная 5 сьнежня пастанова Савету народных комісараў і ЦК УсеКП(б) **«Аб пашырэньні праву заводакіраўніцтваў у справе снабжэньня рабочых і палепшаньні картачнай сыстэмы»** і пасьледваўшая за гэтым пастанова ЦК КП(б)Б і Саўнаркому Беларусі маюць выключна важнае палітычнае і практычнае значэньне для далейшага разьвіцьця прамысловасьці, для палепшаньня рабочага снабжэньня.

У чым сэнс рэарганізацыі рабочага снабжэньня, прадугледжанай гэтымі пастановамі?

Іх сэнс у тым, што яны даюць нашай краіне магутны вагар **да павышэньня продукцыйнасьці працы.**

З першых дзён Кастрычніцкай рэволюцыі, на працягу 15 гадоў, наша партыя вяла і вядзе ўпартую

барацьбу за сьвядомыя адносіны да працы, за высокую продукцыйнасьць.

**«Капіталізм можа быць канчаткова пераможаны і будзе канчаткова пераможаны тым, што соцыялізм стварае новую, значна больш высокую продукцыйнасьць працы»**—сказаў т. Ленін.

Разьмеркаваньне сродкаў спажываньня ня можа разглядацца ізалявана ад спосабу вытворчасьці, як гэта робяць буржуазныя экономісты, якія ўсялякім чынам спрабуюць затушаваць той факт, што капіталістычнай прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці адпавядае такі закон разьмеркаваньня, які вядзе да накапленьня ўсё большых багацьцяў у вузкіх слаёх эксплёататарскіх кляс і росту галечы сярод працоўных. У нас наадварот. **Рост прамысловасьці ў краіне вядзе да няўхільнага палепшаньня бытавых умоў працоўных.** Што гэта так, мы бачым на фактах навакольнай рэчаіснасьці. Але гэта ня значыць, што ў нас разьмеркаваньне прадметаў спажываньня не знаходзіцца ў цясьнейшай сувязі



ДЛЯ ЗАЎВАГ

са спосабам вытворчасьці і не зказвае на яго вялізарнага ўплыву. Мы ведаем, што ўраўнілаўка ў зарплаце пазбаўляе работніка стымулу да працы і вядзе да зьніжэньня продукцыйнасьці працы. Так-жа сама і ўраўнілаўка ў разьмеркаваньні прадметаў спажываньня пагубна адбіваецца на вытворчасьці.

Мы ведаем, што вялізарная большасьць рабочай клясы дае высокія ўзоры соцыялістычных адносін да працы, але побач з гэтым мы маем няўстойлівыя групы рабочых (як правіла, нядаўна прышоўшыя на завод), якія дэзорганізуюць вытворчасьць, падрываюць рэзультаты, здабытыя ўпартаю працаю перадавікоў. **Пры такім становішчы ўраўнальнае разьмеркаваньне продуктаў можа толькі затрымаць рост продукцыйнасьці працы.**

У часе профсаюзнай дыскусіі 1921 г., Троцкі, які спрабаваў разлажыць рады партыі, які арганізаваў чарговую атаку супроць партыі Леніна, выступіў з дэмагогічным патрабаваньнем ураўнальнасьці ў галіне спажываньня.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

**«Гэта зусім няверна,—адказваў тады Ленін трацкістам,—ударнасьць ёсьць перавага, а перавага без спажываньня—нішто... Перавага ва ўдарнасьці ёсьць перавага ў спажываньні».**

Адсюль зразумела, што няправільнай антыленінскай пастаноўкай пытаньня было-б снабжэньне ў роўнай меры і тых рабочых, што прыйшлі на прадпрыемства з мэтаю «ўрваць кавалак пабольш і ўцячы», і тых, хто самааддана і поўнасьцю аддае сваю працу справе соцыялістычнага будаўніцтва. Усе рэсурсы, якія ёсьць у распараджэньні пролетарскай дзяржавы, павінны быць накіраваны па такім рэчышчы, каб хутчэй рухаць продукцыйнасьць працы, бяз высокага ўзроўню якой мы ня здолеем дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны. Пад кіраўніцтвам т. **Сталіна** партыя ўпарта змагаецца за ліквідацыю ўраўнілаўкі. Яшчэ сьнежаньскі пленум ЦК УсеКП(б) (1930 г.), патрабаваў у сваіх рашэньнях перабудовы работы органаў снабжэньня і ў першую чаргу спажывецкай коопэрацыі **«ў бок бязумоўнага забесьпя-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чэньня ў першую чаргу важнейшых вучасткаў «соцыялістычнага будаўніцтва і ўвязкі справы снабжэньня з выкананьнем вытворчых плянаў, павышэньнем продукцыйнасьці працы, барацьбой з цякучасьцю рабочай сілы і заахвочваньнем соцыялістычных форм організацыі працы (соцспаборніцтва, ударніцтва і т. д.)».

За гэтыя два гады зроблена нямала ў ажыцьцяўленьне гэтага ўказаньня. Створаны ЗРК, якія зьявіліся крокам наперад у справе ўвязкі снабжэньня з інтарэсамі вытворчасьці. Таварныя рэсурсы разьмяркоўваюцца зараз паводле прынцыпу пераважнага снабжэньня вядучых раёнаў і прадпрыемстваў і т. д.

Шмат зроблена, але яшчэ больш недароблена і патрабавалася спэцыяльнае рашэньне ЦК, якое патрабуе рэорганізацыі рабочага снабжэньня, што павінна зьявіцца магутным экономічным сродкам для павышэньня продукцыйнасьці працы.

У чым недахопы тэй сыстэмы разьмеркаваньня, якую мы маем на сёнешні дзень?

Пры гэтай сыстэме ЗРК на прадпрыемствах ня быў органічна зьвязан з вытворчасьцю. Заводакіраўніцтвы былі пазбаўлены магчымасьці ўмешвацца ў снабжэнцкую дзейнасьць ЗРК, і такім чынам адзін з мацнейшых вагароў, якія рэгулююць вытворчае жыцьцё складанага заводзкага організму, выпадаў з рук заводакіраўніцтва. Нямала было заводакіраўніцтваў, якія разглядалі ЗРК, як «чужую» організацыю і нічым не дапамагалі яму, з другога боку, некаторыя ЗРК адносіліся да заводу, як да «багатага дзядзькі», абавязак якога як мага больш даваць грошай і ня ўтыкаць носу ў «чужую» справу. **Гэта стварала абязьлічку і безадказнасьць у рабочым снабжэньні.**

Ведамствены падыход да справы заводзкіх коопэратываў шырока скарысталі клясава чуждыя элемэнты, якія прабраліся на прадпрыемствы, скарысталі лятуны і прагульшчыкі. Існуючая сыстэма выдачы харчовых картак у ЗРК, у гарснабах, у жактах, у доманкіраўніцтвах і іншых організацыях не забясьпечвае барацьбы з дэзорганізатарамі вытворчасьці. Пры



ДЛЯ ЗАЎВАГ

гэтай сыстэме прагулы і «тушынскія пералёты» з аднаго заводу на другі ня толькі ня прыносяць страты вінавайцу зрыву вытворчасьці, але нават даюць яму дадатковыя матэрыяльныя выгоды. Прагульшчык, маючы «вольны» час, ухітраецца больш акуратна, чым добрасумленны рабочы, атрымліваць дэфіцытныя тавары. Лятун, пералятаючы на другі завод, на працягу некаторага часу (часам 2—3 месяцы) прадаўжае карыстацца карткай са старога заводу плюс картка з новага месца работы.

Такім чынам, стваралася колёсальнае раскраданьне харчовых рэсурсаў лятунамі і прагульшчыкамі. За апошні час друк ускрыў вялізарную колькасьць такіх фактаў. На заводзе **«Серп і молат»** (у Харкаве) на працягу амаль году ўстанавілася такое становішча, што к канцу кожнага месяцу, пачынаючы з 23—25 чысла, ЗРК вычэрпваў увесь месячны ліміт, які адпускаецца заводу для снабжэньня рабочых хлебам і іншымі продуктамі. Ня гледзячы на тое, што продукты выдаваліся на 30 дзён на ўсіх рабочых, іх хапала на

ДЛЯ ЗАЎВАГ

23—24 дні. Апошнія дні прыходзілася галадаваць. Трохвугольнік доўга біўся над выrашэньнем гэтай загадкі. Шукалі злоўжываньня ў ЗРК, але не знаходзілі. Аднойчы пры праверцы аднаго з магазынаў сустрэліся з групай рабочых, якія ўжо даўно пайшлі з заводу, але атрымлівалі тут продукты. Гэта дало думку праверыць сьпісы спажыўцоў. Аказалася, што каля заводу «Серп і молат» кармілася 1 500 чал. «мёртвых душ», якія і паядалі ліміты датэрмінова.

Мы падалі прыклад харкаўскага заводу. Але і ў нас, у Беларусі, у гэтых адносінах ані ня лепш. Каля кожнага заводу корміцца вялікая колькасьць дармаедаў. Мы ўзялі для праверкі першыя, якія трапіліся, заводы—**імя Варашылава** і **«Комунар»** і аказалася, што на «Комунары» лічыцца 660 рабочых, а ў сьпісах абслугоўваючага яго ЗРК па «Комунару» атрымлівае 860 рабочых. Такім чынам сьпісы разыходзяцца на 200 рабочых. На заводзе імя Варашылава рабочых 1 330, а ў ЗРК снабжаецца 1 780 варашылаўскіх рабочых (бяз сем'яў). Тут набягае ўжо 450 чал.

650 чал. «мёртвых душ» па двох прадпрыемствах. А колькі набярэцца гэтых лішніх ратоў па ўсёй Беларусі? Ніхто не здагадаўся супаставіць гэтыя лічбы, бо ЗРК і заводакіраўніцтва былі аддзелены адзін ад аднаго штучнай сьцяной.

На шыі рабочага сядзіць ня толькі лятун, які пайшоў з заводу. Сядзіць і прагульшчык, які, ня выйшаўшы на работу, свабодна ідзе ў заводзкую сталоўку і кооопэратыў. Нарэшце, разбазарваньне заводзкіх лімітаў ідзе і па лініі прымацаваньня да заводзкіх коопэратываў служачых розных організацый і ўстаноў. Да ЗРК мэталістаў у Менску прымацаваны, напрыклад, служачыя Мэталяаб'яднаньня, служачыя ЦП саюзу машынабудаўнікоў. Як яны снабжаюцца?—«Балянсуем у агульным катле,—заяўляе старшыня ЗРК мэталістаў,—часам ад служачых пяройдзе, часам—ад рабочых». Цяжка, зразумела, уявіць, каб калі-небудзь перайшло ад служачых, і няма сумненьня, што пераходзіць ад рабочых.

Праз усе гэтыя і шмат іншых каналаў, улічыць якія тут не прад-

стаўляецца магчымасьці, уплывае нямалая доля рабочых фондаў, зводзячы да мінімуму, а часам на нішто пераважнае снабжэньне ўдарнікаў, вядучых профэсій, вядучых цэхаў.

На парозе другой пяцігодкі пытаньне аб рэорганізацыі рабочага снабжэньня набывае асаблівую вастрату.

Дэкрэтам ад 4 сьнежня даюцца практычныя шляхі організацыі снабжэньня па-новаму.

262 важнейшыя прадпрыемствы цяжкай і лёгкай індустрыі (у нас у Беларусі—Магілеўская шаўковая фабрыка і Барысаўскі запалкавы камбінат) выдзелены ў асобную групу. Тут уся маёмасьць ЗРК, аж да прыгарадных гаспадарак, перадаецца заводакіраўніцтву і замест ЗРК, які ліквідуецца, організуюцца **аддзелы снабжэньня** пры заводакіраўніцтвах на чале з намесьнікам дырэктара па снабжэньні. Пры прадпрыемствах організуюцца **строга закрытыя крамы** толькі для працуючых на даным прадпрыемстве.

Кіраўнікі прадпрыемстваў—дырэктары, прыняўшы адказнасьць



ДЛЯ ЗАЎВАГ

за стан снабжэньня, ствараючы харчовую базу для свайго прадпрыемства, удзельнічаючы ў арганізацыі самазагатовак, атрымалі магчымасьць зрабіцца сапраўднымі адзінаначальнікамі, скарыстаць усе вагары, якія ўплываюць на рост продукцыйнасьці працы і лепшую яе організацыю.

ЗРК адзінаццаці з лішкам тысяч прадпрыемстваў, якія маюць свае коопэратывы (у тым ліку значная колькасьць ЗРК прадпрыемстваў БССР) застаюцца па-ранейшаму пад ведамам коопэрацыйнай сыстэмы. Аднак, становішча справы рэзка зьмяняецца. **Правы дырэктароў заводаў на ЗРК значна пашыраюцца.** Захоўваючы выбарнасьць і падпарадкуючыся агульным устаноўкам коопэрацыйнай сыстэмы, гэтыя ЗРК падпарадкуюцца заводакіраўніцтвам у іх штодзеннай рабоце. Заводакіраўніцтвы павінны аказваць ЗРК **матэрыяльна-фінансавую дапамогу** ў справе лепшай пастаноўкі і разгортваньня коопэрацыйнай гаспадаркі.

У пастанове ЦК і СНК сказана:

**«Узмацніць правы, адказнасьць і практычны ўдзел заводакіраў-**

ніцтваў прадпрыемстваў у арганізацыі снабжэньня рабочых і разьмеркаваньні асноўных тавараў, для чаго дзейнасьць ЗРК падпарадкаваць заводакіраўніцтвам, побач з падпарадкаваньнем дырэктыўным указаньням Цэнтрасаюзу і яго органаў;

захоўваючы коопэрацыйныя формы работы (членства, сходы і конфэрэнцыі пайшчыкаў, выбары праўленьня і контрольных органаў), устанавіць, што старшыня ЗРК прызначаецца намесьнікам дырэктара прадпрыемства па рабочым снабжэньні».

Выдача наборных картак для рабочых і іх сем'яў перадаецца заводакіраўніцтвам.

У пастанове ЦК і СНК сказана:

«перадаць заводакіраўніцтвам выдачу наборных кніжак (талёнаў) як для працуючых на прадпрыемствах, так і для членаў іх сем'яў, прычым наборныя кніжкі (талёны) выдаваць імянныя і пад нумарамі;

выдаваць наборныя кніжкі (талёны) праз апарат табельшчыкаў, касіраў ці раздатчыкаў у цэхах па плацежных ведамасьцях і разь-

ліковых кніжках, побач з зарплатай, абавязаўшы дырэктароў прадпрыемстваў усямерна ўзмацніць асабовы склад табельшчыкаў, касіраў і раздатчыкаў з выдаленьнем усіх ненадзейных элемэнтаў;

пры звальненьні работніка з прадпрыемства пазбаўляць яго на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 15 лістапада 1932 г. права карыстаньня выданымі яму даным заводакіраўніцтвам, як работніку данага прадпрыемства ці ўстановы, харчовымі і прамтаварнымі карткамі, а таксама права карыстаньня кватэрай у дамох данага прадпрыемства ці ўстановы;

устанавіць, што новапрыбываючыя на прадпрыемства рабочыя і служачыя, а таксама іх сем'і, атрымліваць наборныя кніжкі пры прад'яўленьні даведкі з ранейшага месца жыхарства ці работы аб здачы імі наборных кніжак (талёнаў)».

Зусім відавочна, што такі парадак выдачы наборных дакумантаў наносіць рашучы ўдар дробнабуржуазнай распушчанасьці. Лятун і прагульшчык ня будуць мець магчымасьці карыстацца карткай.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Спэкуляцыя наборнымі кніжкамі,** якая зрабілася профэсіяй прагульшчыкаў і лятуноў, **прыроўнена да крымінальных злачынстваў.**

Пастанова ЦК і Саўнаркому прадугледжвае як гранічны тэрмін правядзеньня мерапрыемстваў па перабудове рабочага снабжэньня **1 студзеня 1933 г.** Кароткасьць тэрміну, які застаўся, патрабуе ад усіх заводзкіх організацый максымальных намаганьняў і энэргіі. У новы год і другую пяцігодку мы павінны ўступіць з выразна організаваным рабочым снабжэньнем.

Практычнае правядзеньне гэтага рашэньня сустрэне на сваім шляху нямалую колькасьць цяжкасьцяй чыста тэхнічнага парадку, ня кажучы ўжо пра прынцыповы бок пытаньня, які бяз сумненьня сустрэне нападкі з боку варожых нам элемэнтаў і опортуністаў усіх масьцей.

Трэба з першых-жа дзён уцягнуць у растлумачальную і практычную работу лепшых ударнікаў, дэпутацкія групы, крамныя і сталовыя комісіі. Трэба добра прадумаць і дэтальна распрацаваць сыстэму выдачы картак, парадак

ДЛЯ ЗАЎВАГ

уліку, контролю з тым, каб ніводзін грам продуктаў ня мог трапіць у рукі лятуноў і прагульшчыкаў, з тым, каб лепшы ўдарнік сапраўды меў лепшае снабжэньне, каб мера спажываньня вымяралася мераю працы.

Шмат якія перадавыя прадпрыемствы Саюзу яшчэ да пастановы ЦК ад 4 сьнежня ўзяліся за вырашэньне гэтых пытаньняў, якія высоўваюцца самым жыцьцём, і дабіліся некаторых посьпехаў у гэтых адносінах. Мы лічым неабходным асьвятліць іх вопыт на старонках блёкноту, каб дапамагчы парторганізацыям хутчэй справіцца з задачай падпарадкаваньня рабочага снабжэньня інтарэсам вытворчасьці.

На заводзе «Серп і молат» (Харкаў) цякучасьць рабочай сілы дасягала 12—15 проц. у месяц. Рабочыя фонды разбазарваліся, програма сыстэматычна ня выконвалася.

Пачынаючы з красавіка месяца завод рэорганізаваў сыстэму выдачы картак. Пачалі рабіць так. **Штомесячна паміж 20—22 чыслом кожны начальнік цэху складае**

**сьпісы рабочых свайго цэху і іх утрыманцаў на атрыманьне харчовых картак.** У сьпісах ёсьць наступныя графы: прозьвішча, рабочы нумар, работа, якая выконваецца, катэгорыя, колькасьць утрыманцаў, колькасьць выданых наборных кніжак, нумар хлебаразьмеркавальніка, расьпіска ў атрыманьні. Загадзя да запаўненьня сьпісаў начальнік па працы паведамляе ўсіх рабочых, каб прынесьлі даведкі ад жактаў, ці сельсаветаў аб колькасьці ўтрыманцаў. Рабочаму выдаюцца спэцыяльныя стандартныя даведкі, якую павінен запоўніць жакт ці сельсавет. Калі-ж рабочы жыве ў прыватным доме, дык яго абсьледуюць дэпутацкія групы цэхаў і даюць яму даведку аб утрыманцах. **Пасьля запаўненьня сьпісаў іх праглядае цэхавая комісія.** Найбольш няпэўныя даведкі правяраюцца добраахвотніцкімі брыгадамі. Пасьля таго, як сьпісы праверaны, яны перадаюцца ў агульназаводзкую комісію, якая правярае, ці не перавышае колькасьць рабочых устаноўленых лімітаў. Пасьля гэтага сьпісы перадаюцца філіялу гарснабу і

ДЛЯ ЗАЎВАГ

праз дзень памочнік начальніка цэху атрымлівае ў гарснабе кніжкі для сваіх рабочых і раздае іх у цэху. Рабочы расьпісваецца ў атрыманьні карткі і **тут-жа робіцца адзнака, да якога хлебаразьмеркавальніка ён хоча прымацавацца.**

Такая сыстэма выдачы да пэўнай ступені застрахавала завод ад наплыву «мёртвых душ» і, як мы ўжо зазначалі, дазволіла вылавіць 1 500 чал. лішніх ратоў. Аднак, яна не вырашала пытаньня аб больш кароткатэрміновым карыстаньні (у межах месяца) карткаю заводу, калі той, што атрымаў картку, кінуў работу. З гэтай мэтай неўзабаве былі ўведзены асобныя пропускі ў ЗРК, без якіх па аднэй картцы продуктаў нельга было атрымаць. Пропуск зноў-такі выдаецца ў цэху. **Кожную пяцідзёнку табельшчык робіць на пропуску адзнаку, якая ўказвае, што даны рабочы сапраўды працаваў даную пяцідзенку на заводзе.** У выпадку, калі лятун кідае работу, праз пяць дзён яго картка анулюецца мэханічна.

Старым рабочым, якія працуюць на вытворчасьці ня менш 15 гадоў,

і лепшым ударнікам, пропуск выдаецца на месяц. Запаўненьне пропуску не прадстаўляе цяжкасьці. Праз кожныя пяць дзён рабочы здае пропуск разам з табельным нумарам. Пасьля гэтага табельшчык з памочнікам начальніка цэху па працы робяць адзнаку на наступныя пяць дзён і рабочы атрымлівае пропуск пры выхадзе з заводу.

Вядома, гэта сыстэма яшчэ недасканалая і мае шмат недахопаў, але яна ўжо робіць значны крок наперад у параўнаньні з тым, калі разьмеркаваньнем картак распараджаўся хто хочаце—міліцыя, домакіраўніцтва, жакт, але толькі не заводзкія організацыі. Сыстэма адразу-ж адбілася на вытворчай рабоце заводу. Досыць сказаць, што **цякучасьць рабсілы зьменшылася з 12—15 проц. да 1 проц., вытворчая програма сыстэматычна пачала выконвацца,** нехапаўшых раней лімітаў пачало хапаць і за трэці квартал нават засталося лішку 51 тона хлеба, што дазволіла заводу ўзяць на снабжэньне інвалідаў, былых рабочых «Сярпа і молата» з іх сем'ямі.

Ня менш цікавым зьяўляецца вопыт харкаўскага заводу ХЭМ. Тут **трохвугольнік кожнага цэху штомесячна складае сьпіс сваіх рабочых і вызначае, па якой катэгорыі павінен снабжацца кожны рабочы.** Дзякуючы гэтаму зрабілася немагчымым няправільнае вызначэньне катэгорый, на што раней былі частыя нараканьні рабочых. Карткі выдаюцца адміністрацыяй. Хлебныя карткі сапраўдныя толькі ў тым выпадку, калі на іх ёсьць штамп табельшчыка аб рабоце. Штамп ставіцца кожную пяцідзёнку.

У **Крыварожжы,** на Чырвонагвардзейскай рудні, харчовыя і хлебныя карткі выдаюцца **брыгадзірам у брыгадзе.** Брыгадзір блізка ведае сваіх рабочых, іх сямейнае становішча. Сем'і новапаступаючых рабочых абсьледуюцца добраахвотным актывам і коопкомісіяй. Карткі раздаюцца толькі пасьля таго, як брыгада выявіла твар усіх рабочых. У канцы дня кожнаму рабочаму брыгадзір выдае маленькі талёнчык з надпісам: «з такога чысла працаваў». Толькі атрымаўшы гэты талёнчык, рабо-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чы мае магчымасьць трапіць у **сталоўку** і атрымаць хлеб. Хто ў гэты дзень прагуляў, той застаецца без абеду і бяз хлебнай нормы.

Перш чым карткі паступаюць да брыгадзіра, яны праходзяць рад інстанцый, які адсейвае прагульшчыкаў. Рудакіраўніцтва атрымлівае ліміт на карткі. Ліміты даюцца ня зыходзячы з наяўнага складу рабочага, а зыходзячы з пляанавай патрэбы. Гэта, з аднаго боку, не дае павялічваць колькасьць рабочай сілы звыш пляну; з другога боку, калі рабочых менш пляну, у руках кіраўніка шахтаю застаецца невялікі «запас» картак, які дае магчымасьць манэўраваць у межах сваёй шахты (выдаць картку новапаступіўшаму, дадаць паёк лепшых ударнікаў). Той-жа самы парадак выдачы і на шахце **імя Розы Люксэмбург.** Цякучасьць на гэтых шахтах поўнасьцю прыпынілася. Рэзка скарацілася і колькасьць прагулаў: гуляць бяз хлеба, продуктаў і абедаў стала нявыгодна. Продукцыйнасьць павысілася. **У кастрычніку ўпяршыню за год рудня дайшла да поўнага выкананьня програмы.**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Цяпер, пасьля дэкрэту аб прагулах, прагулы спыніліся зусім.

На заводзе **імя Рыкава** 8 тыс. рабочых-ударнікаў атрымліваюць хлеб на дом з булачных ЗРК. Рабочы, атрымаўшы ў цэху картку, уносіць у ЗРК невялікі аванс. Гэтыя карткі з 16 адрыўнымі талёнамі (хлеб выдаецца адразу на 2 дні) хаваецца ў рабочага дома. Развозчык хлеба мае ў сябе другія карткі. Выдаўшы хлеб, развозчык забірае ў рабочага адрыўны талён і робіць адзнакі ў сваёй картцы, што хлеб дастаўлены. Але досыць рабочаму адзін дзень ня выйсьці на работу па няўважлівай прычыне, як табельшчык паведамляе аб гэтым у ЗРК і развозчыку хлеба, **і прагульшчык хлеба не атрымлівае.** На заводзе працуе 23 добраахвотныя брыгады па выяўленьні злоўжываньня з карткамі. Усё гэта дало вялікія рэзультаты. Толькі за апошнія тры месяцы зэкономлена 14 691 **кг** хлеба, якія раней раскрадаліся прагульшчыкамі, лятунамі і жулікамі.

У нас, у Беларусі, таксама былі паасобныя спробы ўпарадкаваць рабочае снабжэньне і пакласьці

ДЛЯ ЗАЎВАГ

канец разбазарваньню харчовых фондаў. У друкарні імя Сталіна ўвялі, напрыклад, такую сыстэму. Атрымліваючы харчовыя карткі, рабочыя ня трымаюць іх на руках, а здаюць у свой ЗРК. У ЗРК ёсьць картотэка на ўсіх рабочых. Калі рабочы прыходзіць у магазын, яму выпісваюць продукты, і касірша, атрымліваючы грошы, выймае картку і робіць адзнаку, што продукты атрыманы. Калі рабочы звальняецца, адразу-ж начальнік цэху праз коопкомісію паведамляе ЗРК, каб анулявалі картку. Гэта сыстэма мае свае вялікія недахопы, бо можа прывесьці да злоўжываньняў у ЗРК, які трымае ў сябе карткі рабочых. І сапраўды, адну касіршу ўжо прышлося зьняць за прысваеньне некалькіх кілё масла па картках рабочых.

На некаторых заводах («Комунар») спрабавалі ўвесьці талёны, без якіх нельга па аднэй картцы атрымаць паёк, але гэта не дало пажаданых рэзультатаў, бо коопкомісія, якая выдавала іх, не вяла ўліку, каму выдалі талён, і, атрымаўшы талён для сябе, рабочы мог узяць талён яшчэ для таварыша

ДЛЯ ЗАЎВАГ

лятуна. Што гэта так, пацьвярджае той факт, што ў ліцейным цэху, які налічвае 140 рабочых, за кастрычнік выдана 300 талёнаў. За апошні час талёны пачынаюць выдаваць па брыгадах. Гэта робіць контроль больш дзейсны. Аднак, пакуль выдача картак знаходзілася ў руках ЗРК, усе гэтыя мерапрыемствы не давалі належных рэзультатаў, і, як мы ўжо зазначалі, да апошняга часу ў сьпісах рабочых «Комунару» лічылася 200 лішніх душ.

На некаторых заводах (імя Варашылава, імя Молатава і інш.) барацьбу з лятунамі прабуюць весьці праз пасылку сьпісаў выбыўшых у ЗРК. Гэта мерапрыемства ў канчатковым выніку таксама не дае прыкметных рэзультатаў. Па-першае, сьпісы прадстаўляюцца няпоўныя і з вялікім спазьненьнем. Па-другое, ЗРК нядбайна адносіцца да адбору картак. Возьмем прыклад: ЗРК мэталістаў абслугоўвае завод імя Варашылава і «Комунар». За апошнія тры месяцы з заводу імя Варашылава пайшло звыш 300 рабочых, з «Комунару»—181. Між тым, у ЗРК ад

ДЛЯ ЗАЎВАГ

абодвых заводаў за тры месяцы паступіла тры сьпісы ўвогуле на 82 чал. І з гэтых 82 кніжкі адабралі толькі ў 5.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што існаваўшая да гэтага часу сыстэма выдачы картак праз ЗРК і іншыя организацыі не давала заводакіраўніцтву і прафсаюзу поўнай магчымасьці дабіцца, каб ніводзін кілёграм продуктаў ня ішоў на старану. Толькі новы закон, які перадае выдачу харчовых дакумантаў у рукі заводакіраўніцтва, вырашае задачу падпарадкаваньня рабочага снабжэньня цалкам і поўнасьцю інтарэсам вытворчасьці.

Перадады намі вопыт харкаўскіх заводаў наглядна кажа пра тыя вялізарныя магчымасьці ў справе барацьбы за выкананьне вытворчай програмы і палепшаньне рабочага снабжэньня, якія адкрываюцца рэалізацыяй гэтай пастановы. Работа, праробленая заводамі «Серп і молат», ХЭМ і іншымі, хоць яшчэ недасканалая, але можа і павінна быць у значнай меры ўспрынята нашымі заводамі.

Партыйныя, гаспадарчыя і праф-саюзныя арганізацыі павінны з ўсёй адказнасьцю падыйсьці да хутчэйшага вырашэньня задач, пастаўленых рашэньнямі ЦК і СНК СССР і БССР. Навакол гэтых рашэньняў трэба безадкладна разгарнуць шырокую растлумачальную работу сярод рабочых, працоўных, асабліва сярод адсталых груп.

Трэба з усёй рашучасьцю ўдарыць па халатнасьці і бюракратычнай самаздаволенасьці чыноўнікаў з партбілетам і без партбілету, якія думаюць, што ня трэба рабіць ніякіх асаблівых намаганьняў у барацьбе за рэалізацыю пастаноў СНК і ЦК, што посьпехі аўтоматычна забясьпечаны новымі формамі снабжэньня рабочых. Што такіх самацёчных настрояў нямала, пра гэта кажуць матэрыялы рэйду, праведзенага агітмасавым аддзелам ЦК КП(б)Б 8 сьнежня. На 8 сьнежня тры чвэрці заводаў г. Менску ня толькі нічога не зрабілі, але нават яшчэ не прыступалі да прапрацоўкі рашэньняў.

Нам. дырэктара па снабжэньню

ДЛЯ ЗАЎВАГ

заводу «Комунар» т. **Пялітовіч** даў, напрыклад, характэрны бюрократычны адказ на пытаньне, як ідзе прапрацоўка рашэньня. «Магчыма сёе-тое робяць у ЗРК,—сказаў ён,—даведайцеся там».

Такім чынам намесьнік дырэктара палічыў, што яго гэтая справа не датычыць. Такія самыя настроі і ў сакратара партколектыву і ў старшыні заўкому, якія лічаць, што дзеля дэкрэту нельга парушаць пляну масавай работы і зьбіраюцца прапрацаваць дэкрэт толькі 18 сьнежня.

У некаторых мясцох, напрыклад, на заводзе імя Варашылава і ў друкарні імя Сталіна прыступілі да прапрацоўкі, але падыйшлі да пытаньня без належнай сур'ёзнасьці. Прапрацоўка ідзе па цэхах, а не па брыгадах. Дакладчыкі дрэнна падрыхтаваны. У друкарні імя Сталіна, напрыклад, па дакладу выступіла ўсяго адна работніца. У кацельным цэху заводу імя Варашылава, дзе сабралася толькі нязначная частка рабочых, адсталыя элемэнты паспрабавалі даць бой: пачуліся выгукі—«няправільна, што пазбаўляюць картак за

прагул», «з голаду будзем пам-раць» і т. д. Гэтыя выгукі ня сустрэлі належнага растлумачэньня і адпору. Яшчэ характэрны факт. 8-га на заводзе выйшаў нумар шматтыражкі, дзе няма ні слова пра дэкрэт і пра новы парадак снабжэньня рабочых. Між тым, ці так павінны былі сустрэць дэкрэт на заводзе імя Варашылава, дзе, паводле заявы самога сакратара Сосінава, за другі і трэці квартал цякучасьць складае 60 проц., а прамфінплян сыстэматычна ня выконваецца, дзе пасьля дэкрэту ў сярэднім ня выходзіць на работу 20 чал., а да дэкрэту ня выходзіла 60, дзе на снабжэньні заводу сотні лятуноў і прагульшчыкаў.

Хіба незразумела, што контроль за мерай працы і мерай спажываньня, барацьба супроць дробнабуржуазнай распушчанасьці і ўраўнілаўкі, барацьба за дысцыпліну працы—**«своеасаблівая новая форма клясавай барацьбы»** («Правда»). Яна на нашых вачох набывае шмат адценьняў і нярэдка застаецца незаўважанай. Падамо маленькі прыклад. Калі брыгада агіт-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

масавага аддзелу ЦК прышла на «Комунар», там усе з задавальненьнем адзначылі рэзкае зьніжэньне прагулаў пасьля дэкрэту. І сапраўды, лічбы кажуць аб зьніжэньні. Напрыклад, па ліцейнаму цэху за першую палову лістапада (да дэкрэту) было 8 прагулаў. Пасьля дэкрэту, з 17 лістапада па 8 сьнежня, адзін прагул; па мэханічным цэху ў тыя самыя тэрміны 15 прагулаў і 1 прагул. Прыблізна такая самая карціна і па іншых цэхах. Але брыгада пацікавілася прагуламі па ўважлівай прычыне—па хваробе—і тут выявіла такую карціну: у верасьні па хваробе прапушчана 544 чалавекадні, у кастрычніку—570, а ў лістападзе адразу 829 (толькі па хваробе, бяз іншых «уважлівых прычын»), прычым рост хвароб прыпадае ў асноўным на другую палову лістапада, г. зн. пасьля дэкрэту. На заводзе імя Варашылава так-жа сама зьнізілася колькасьць прагулаў па няўважлівых прычынах, але ўзрасла графа па ўважлівых. Прыкладна (узяты першыя даты, якія трапіліся): 8 ліпеня па ўважлівых прычынах прагуляла 12 чалавек, па

ДЛЯ ЗАЎВАГ

няўважлівых 78; 1 лістапада па ўважлівых—5 чалавек, па няўважлівых—52. Пачынаючы з дня апублікаваньня дэкрэту карціна рэзка зьмяняецца: 22 лістапада па ўважлівых прычынах ня выйшла 35 рабочых, па няўважлівых—17; 27-га па ўважлівых—26, па няўважлівых—2; 29-га па ўважлівых—26, па няўважлівых—1; 1 сьнежня па ўважлівых—28, па няўважлівых—1. Вядома, у значнай меры гэта тлумачыцца тым, што некалі хворы рабочы ленаваўся ўзяць бюлетэнь, але ў ня меншай ступені прычына ў іншым. Прагульшчык і сымулянт хоча знайсьці сабе лаз і абыйсьці закон аб прагулах і новым парадкам снабжэньня з другога канца. Заводзкія ўрачы скардзяцца ў апошні час на прыток сымулянтаў, якія скандаляць, патрабуюць бюлетэню. На заводзе імя Молатава ўскрыта ўжо некалькі выпадкаў падробкі бюлетэняў. На «Комунары» комсамолка модэльшчыца Элькіна прагуляла і заявіла, што была хворая, а бюлетэнь згубіла. Калі праверылі, дык аказалася, што ў больніцы яна была і патрабавала бюлетэнь ва ўрача, сьцьвяр-

джаючы, што ёй баліць галава, але ўрач бюлетэнь ёй выдаць адмовіў.

Гэта адзін канал, па якім накіроўваецца прагульшчык, несьвядомы рабочы, клясавы вораг, які прабраўся на завод. А колькі яшчэ розных каналаў, шчылін, выкрутаў, якіх шукае зараз дэзорганізатар вытворчасьці.

Толькі бюрократ, які паражаны клясавай сьлепатой, можа гэтага ня бачыць, толькі опортуніст спадзяецца самацёкам перамагчы старыя звычкі і навыкі, рэшткі капіталізму ў экономіцы і сазнаньні людзей.

Перамагаючы дэзорганізатарскую работу клясавага ворага і яго агентуры—правых і «левых» опортуністаў, — парторганізацыя Беларусі павінна дабіцца, каб новыя мерапрыемствы, накіраваныя да палепшаньня снабжэньня ўдарнікаў і добрасумленных рабочых, былі праведзены ў максымальна кароткія тэрміны, каб гэтыя мерапрыемствы як мага хутчэй далі экономічны і політычны эфэкт.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

